

*“Для чалавека няма нячшасця жудасней рабскага лёсу” (Сафокл)*

# ШКЛОЎ-*інфо*

**№2** *(84) студзень 2014*

*ПАЗНАВАЛЬНА-АНАЛІТЫЧНАЯ МЯСЦОВАЯ ГАЗЕТА*

*Выходзіць 2 разы ў месяц* *Заснавана ў ліпені 2009 г.*

чытайце нас зараз і на kamunicat.org

**Беларусь** на протяжении последних трех лет оставалась лидером на постсоветском пространстве по росту цен. Накануне нового года на 10% повысились предельные максимальные отпускные цены на некоторые виды хлеба и булочных изделий, мясо цыплят-бройлеров и яйцо куриное. Стала дороже также молочная продукция. Это предусмотрено постановлением Минэкономики Беларуси №86 от 18 ноября 2013 года.

**Прокуратура** возбудила уголовное дело в отношении директора и заместителя директора ООО «Самая мебель» и директора ОАО «**Горецкий оптово-розничный торговый комплекс**». Первая компания является известным в регионе производителем мягкой мебели, а вторая – крупнейшей торговой площадкой, к которой в последнее время проявляют интерес практически все правоохранительные в связи с подозрением в легализации преступных средств.

Всем троим руководителям предприятий инкриминируется совершение преступления по ч.4 ст.210 Уголовного кодекса Беларуси (хищение путем злоупотребления служебными полномочиями, совершенное организованной группой либо в особо крупном размере), которая предусматривает наказание до 12 лет лишения свободы с конфискацией имущества.

## «Народная праграма» у Шклове

4 студзеня 2014 года ў Шклове адбылася знакавая падзея – па вуліцы Саборнай (Рыжкавічы) запрацаваў незалежны грамадскі цэнтр, які размясціўся ў прыватная сядзібе. Сімвалічна, што калісьці тут стаяў касцёл дамініканаў і саму мясціну да гэтага часу мясцовыя жыхары называюць Кляштарам. На адкрыццё “цэнтра” былі запрошаны мясцовыя грамадскія актывісты, чальцы партыйных арганізацый Шклоўскага, Бялыніцкага раёнаў і г.Магілева. Прынялі ўдзел у адкрыцці намеснікі страшыні руху “За свабоду” Ю.Губарэвіч і Г.Скараход.

З уступным словам выступіў намеснік старшыні партыі БНФ Р.Кастусёў, які распавёў пра “цэнтр”, як апірышча незалежнай думкі, беларушчыны і падтрымкі дэмакратыі і запрасіў з гэтай нагоды праяўляць большую настойлівасць у дэмакратычным жыцці раёна.

**Ю.Губарэвіч** распавёў пра “Народную праграму”, якая зараз рэалізоўваецца ў краіне з удзелам дэмакратычных сілаў. “Народная праграма” – гэта ініцыятыва па выпрацоўцы новага пазітыўнага гледжання будучага Беларусі з дапамогай экспертнага і шырокага грамадскага абмеркавання надзённых пытанняў развіцця краіны. Выступоўца звярнуў увагу, што “Народная праграма” не робіцца пад якую-небудзь канкрэтную палітычную сілу ці з нейкімі вузка палітычнымі мэтамі. Ідэі могуць выказвацца самыя розныя, каб у працэсе дыскусіі нараджалася сумеснае бачанне таго, як трэба развівацца Беларусі, якія змены неабходныя ў розных сферах.

Ю.Губарэвіч адзначыў, што вельмі прыемна, калі ў беларускай глыбінцы ўзнікаюць і пашыраюцца выспы дэмакратыі. Менавіта з дапамогай мясцовых актывістаў фармуецца бачанне дэмакратычнай Беларусі ў будучым.

Шклоўскі незалежны грамадскі цэнтр пачаў сваю дзейнасць дыскусіяй пра неабходнасць прыватызацыі зямлі ў Беларусі, пра магчымыя шляхі рэфармавання сельскай гаспадаркі. З дакладам на гэту тэму выступіў былы кіраўнік гаспадаркі, кандыдат эканамічных навук, дацэнт **П.Мігурскі**. Ён адзначыў, што сродкі, якія зараз укладвае дзяржава ў вытворчасць прадуктаў харчавання, выкарыстоўваюцца вельмі неэффектыўна. За апошнія 5 гадоў доля выдаткаў на сельскую гаспадарку ў бюджэце паступова расла і складае зараз 18% (62% ад кошту прадукцыі), пры гэтым доля прадукцыі ў ВУП (валавы унутраны прадукт) за гэты ж перыяд зменшылась на 7,4% і складае трохі больш за 5 адсоткаў. Больш таго, сельская гаспадарка штогод “паглынае” 17,1% ад усіх інвестыцый краіны ў асноўны капітал. Ці не вельмі дарагі кошт такой сельскай гаспадаркі?

Асаблівасць цяперашняй сельскай гаспадаркі ў Беларусі у тым, што яна цалкам кантралюецца дзяржавай і ў большай ступені, чым другія галіны эканомікі, ім рэгулюецца. Можа таму даўгі сельскагаспадарчых арганізацый у 1,7 раза перавышаюць грашовую выручку, што робіць праблему вяртання даўгоў невырашальнай? І не трэба асабліва здзіўляцца, што каля 90% сельскагаспадарчых прадпрыемстваў краіны з'яўляюцца стратнымі, а пра самафінансаванне кіраўнікі-аграрнікі толькі мараць.

Галоўная праблема сельскай гаспадаркі Беларусі ў адсутнасці фінансавых рэсурсаў нават для забяспячэння простага ўзнаўлення. А вось прычына нізкай эфектыўнасці сельскагаспадарчай вытворчасці, як, зрэшты, і ўсёй эканомікі Беларусі, ў адсутнасці матывацыі для высокапрадуктыўнай працы, дэградацыі асобы, у адсутнасці магчымасці самарэалізацыі працаўніка. Асноўным жа тормазам для развіцця сельскай гаспадаркі з'яўляецца існуючая форма ўласнасці, бо зараз у рэспубліцы няма эфектыўнага ўласніка (95% зямлі належыць дзяржаве), які мог бы ў масавым парадку кіраваць галіной. У той жа час фермерскія гаспадаркі маюць рэнтабельнасць на 40% вышэй, чым дзяржаўныя структуры, што прынцыпова ігнаруецца чынавенствам. Мала таго, што фермерам пакуль "дазволілі" мець у карыстанні толькі 1,8% ад агульнай колькасці сельгасугоддзяў, але ж на 1 ліпеня 2013 года 6,5% фермерскіх гаспадарак наогул так і не атрымалі зямельныя надзелы («СБ» ад 28.06.2013 г.).

Больш таго, складваецца ўражанне, што дзяржава вядзе мэтанакіраваную барацьбу з дробнатаварнай вытворчасцю ў сельскай гаспадарцы, "зажымаючы" не толькі фермераў, але і асабістыя гаспадаркі. Але ж трэба напомніць "барацьбітам", што сялянскі падворак сёння дае больш 80% вытворчасці бульбы, гародніны і воўны ў краіне. Чыноўнікі – народ вельмі ўпарты на дурное і свайго даб'юцца ў барацьбе супраць народа. А тое, што ад гэтага супрацьстаяння дзяржава толькі бяднее, асабліва клопату "вертыкалі" не дадае – не сваё, ды і ў прыватніка-селяніна адабраць штосьці можна толькі са зброяй. Але да гэтага яшчэ не дайшло – пакуль Расія дае рэжыму крэдыты, беларусі селянін можа расціць бульбу без асцярогі.

Зараз у краіне рэалізуецца, бадай, самы найгоршы механізм развіцця сельскай гаспадаркі – асновай росту вытворчасці з'яўляецца пераразмеркаванне нацыянальнага прадукта ў аграрный сектар, а не структурныя і інстытуцыянальныя пераутварэнні. Пры гэтым, фарсіраванне дзяржавай развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці толькі за лік інвестыцый, але без стварэння новых бізнэс-структур на сяле, будзе мець адваротны эфект – рост беспрацоўя. Аблягчае тэндэнцыю нарастаючы міграцыйны паток сельскага насельніцтва, але ж і "вымываюцца" высокакваліфікаваныя кадры з сяла. На гэтым фоне вынікам праграмы будаўніцтва аграгарадкоў аказваецца не рост эфектыўнасці гаспадарання, а пераразмеркаванне "сацыяльных няўдачнікаў". Больш таго, аграгарадкі правакуюць "пралетарызацыю" сялянства і жыхары вёскі з вытворцаў пераходзяць у разрад спажыўцоў харчавання.

Агульнаэканамічныя параметры развіцця сельскай гаспадаркі ў Беларусі, якімі так бахваліцца "вертыкаль", на самай справе не адлюстроўваюць вастрыні крызісных з'яў, абумоўленных дзяржаўнай палітыкай у аграрным сектары. Дынаміка валавых паказчыкаў вытворчасці толькі камуфліруе негатыўныя тэндэнцыі ў сельскай гаспадарцы і патрабуюць больш пільнага аналіза складнікаў гэтага працэса. Галоўнае, што рост паказчыкаў вытворчасці не аказвае стабілізуючага ўздзеяння на фінансавае становішча буйнатаварных вытворцаў. Больш таго, усталяваная структура аграрнай вытворчасці вядзе да дэстабілізацыі эканомікі ўсёй краіны, што вымагае ад улад і грамадскасці рашучых дзеянняў у напрамку рэфармавання аграрных адносін у краіне. У першую чаргу закранаючых формы ўласнасці.

Здаецца, што прыватная ўласнасць на зямлю, як асноўны сродак вытворчасці, і павінна вызначаць эфектыўнасць сельскагаспадарчай вытворчасці ў краіне. Тым не менш, лічыць П.Мігурскі, фарсіраванне прыватызацыі зямлі ў Беларусі, да чаго заклікаюць многія эксперты, пытанне дыскусійнае. Досвед розных краін з развітай рынкавай эканомікай пацвярджаюць вызначальную роль у матывацыі працы не столькі ўласнасці на зямлю, колькі формы гаспадарання на ёй. Больш таго, сучасная гісторыя паказвае, што функцыянуючыя сельскагаспадарчыя вытворчасці на правах уласнасці ці арэнды па эфектыўнасці практычна не адрозніваюцца, калі іншыя фактары ў іх адназначны. Галоўным тут з'яўляецца не ўласнасць на зямлю, а права ўласнасці на канчатковыя вынікі вытворчай дзейнасці – права распараджэння выробленай прадукцыяй і атрыманай ад рэалізацыі грашовай выручкай.

Зараз прыватная ўласнасць у

сельскай гаспадарцы Беларусі знаходзіцца у зародкавым стане, хоць дзяржава, як уласнік, не можа забяспечыць дастатковую эфектыўнасць вытворчасці. Пры гэтым, фермерскія гаспадаркі не маюць роўнага з дзяржаўнымі сельскагаспадарчымі арганізацыямі доступа да рэсурсаў, свабоды выбару рынкаў, абмежаваны ў фінансаванні вытворчай дзейнасці і, такім чынам, яны не могуць у пэўнай ступені канкурыраваць с дзяржаўнымі сельгасвытворцамі. Таму рэфармаванне сельскай гаспадаркі павінны адбывацца ў рэчышчы рэфармаваньня ўсёй беларускай эканомікі.

П.Мігурскі прапанаваў сваё бачанне канкрэтных шляхоў рэфармавання сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і зазначыў, што найбольшай праблемай гэтага працэсу будзе адаптаванне буйнатаварных жывёлагадоўчых комплексаў у рынкавую эканоміку.

У той жа час, дзяржава заканадаўча павінна гарантаваць права уласнасці на зямлю як основы высокага ўзроўню сацыяльна-эканамічнага развіцця сельскай гаспадаркі. Больш таго, аказваць адпаведны ўплыў на прыватную ўласнасць у яе карыстанні шляхам забяспячэння ўмоў для развіцця.

Такім чынам, на думку П.Мігурскага, рэфармаванне аграрных адносін у Беларусі павінна адбывацца ў русле структурных пераутварэнняў у цэлым у эканоміцы краіны і ўяўляць сабой комплекс палітычных і юрыдычных рашэнняў, а таксама эканамічных мер з мэтай поўнай рэалізацыі ўнутранага патэнцыялу сельскай гаспадаркі.

Наступны выступоўца, намеснік старшыні партыі БНФ **Р.Кастусёў**, больш катэгарычна выказаўся наконт прыватнай уласнасці на зямлю. Ён лічыць, што неабходнасць правядзення аграрнай рэформы з мэтай стварэння высокаэфектыўнай, канкурэнтназдольнай сельскай, рыбнай і лясной гаспадаркі назрэла яшчэ ў савецкія часы. Ад гэтага залежыць лёс і дабрабыт народа, палітычная стабільнасць у грамадстве. Аграрная рэформа мусіць прадугледжваць не толькі зямельную рэформу, а і перабудову структуры дзяржаўнага кіравання ў гэтай сферы, стварэнне сістэмы малых перапрацоўчых прадпрыемстваў і збытавых арганізацый, стварэнне эфектыўнай сістэмы фінансавання сяла і сацыяльную абарону сельскіх жыхароў.

Асноўнай мэтай зямельнай рэформы павінна заставацца мэта па аднаўленню сапраўднага гаспадара на зямлі праз прыняццё новага зямельнага кодэксу і закона аб уласнасці на зямлю. У прыватную ўласнасць можа быць перададзена бальшыня земляў сельскагаспадарчага прызначэння. Перадачу зямлі варта ажыццяўляць без яе выкупу новымі ўладальнікамі, бо яна была гвалтоўна адабрана ў яе ранейшых гаспадароў. Права бясплатнага атрымання зямлі ў прыватную ўласнасць павінна распаўсюджвацца на ўсіх сельскіх жыхароў, уключна з пенсіянерамі і спецыялістамі ў сферы абслугоўвання вёскі. Пры перадачы зямлі ў прыватную ўласнасць спрыяць у першую чаргу будучым уласнікам участкаў, найбольш аддаленых ад цэнтральных населеных пунктаў. Ва ўласнасці дзяржавы павінны заставацца элітныя насеннегадоўчыя і навукова-вытворчыя гаспадаркі, племянныя заводы, лясы, рыбагадавальнікі.

Асобным пытаннем пры правядзенні зямельнай рэформы павінна заставацца пытанне рэарганізацыі існуючых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у рынкавыя структуры. Рашэнне праблемы варта перадаць непасрэдна працаўнікам сельгаспрадпрыемстваў, падвёўшы пад гэта заканадаўчую базу. Для сельскагаспадарчых прадпрыемстваў розных формаў уласнасці дзяржавай павінны быць створаны аднолькавыя прававыя і эканамічныя ўмовы дзейнасці.

Рэфармаванне гаспадарак, калектывы якіх прынялі рашэнне аб перадачы зямлі ў прыватную уласнасць, варта распачынаць першасна з этапа перадачы зямлі і маёмасці на пэўны тэрмін у калектыўную, сямейную, індывідуальную арэнду, з мэтай накаплення навыкаў самастойнай дзейнасці членаў калектыву і захавання склаўшыхся вытворчых цыклаў на канкрэтных тэрыторыях.

Пры правядзенні зямельнай рэформы Урад краіны мусіць забяспечыць юрыдычную, арганізацыйную, метадалагічную магчымасць пераўтварэнняў у сельскай гаспадарцы, стварыць рэзервовы зямельны фонд для наступнай перадачы яго ва ўласнасць індывідуальным сялянскім і іншым падобным гаспадаркам, працуючым на зямлі. Адзінымі дзяржаўнымі рэгулюючымі чыннікамі павінны заставацца кантроль за мэтавым выкарыстаннем зямель сельскагаспадарчага прызначэння і падатак на зямлю, сума якога вызначаецца згодна эканамічнай ацэнкі зямлі. Рынак зямлі, які будзе функцыянаваць праз створаную сістэму аукцыёнаў зямельных банкаў і права на заклад зямлі і будзе з’яўляцца ўмовай самарэгуляцыі эканомікі і яе развіцця.

Трэба сказаць, што ў апошнія

два дзесяцігоддзі беларускім чынавенствам, беларускімі дзяржаўнымі СМІ ўсяляк насаджаецца грамадству меркаванне, што ў нашай краіне зямля нікому не патрэбна, і што працаваць на зямлі ў Беларусі – гэта эканамічна-стратная справа. Але ў той жа час, як паказвае досвед, маёмасць шматлікіх гаспадарак паступова пераходзіць ва ўладанні беларускіх чыноўнікаў прыбліжаных да вышэйшай улады. Разгледзім дадзены працэс на прыкладзе былога калгаса імя Фрунзэ Шклоўскага раёна. Калгас быў створаны ў 1929 годзе і ва ўсе часы з'яўляўся адной з найлепшых гаспадарак раёна. У 2002 годзе да яго быў далучаны к-с "Запаветы Леніна". У 2003 годзе к-с імя Фрунзэ быў пераіменаваны ў ЗАТ (Закрытае акцыянернае таварыства) "Любініцкае", а ў 2005 гаспадарка была пераіменавана ў ЗАТ "Амкадор-Шклоў" з продажам акцыяў гаспадаркі ААТ "Амкадор" Мінск. Развязкай ўсіх гэтых пераўтварэнняў сталася набыццё 25 студзеня 2013 года кантрольнага пакета акцыяў (53,64%) ААТ "Амкадор" кіраўніком ТАА "Інтэрсервіс" Мікалаем Вараб'ём, асабіста прыбліжаным да кіраўніка краіны. У выніку маёмасць былых калгаснікаў перайшла ва ўласнасць акцыянераў "Амкадора", а калгаснікі з уладальнікаў маёмасціператварыліся ў наёмных работнікаў. Падобнымі крокамі адназначна закладваецца перспектыва перадачы ў прыватную ўласнасць зямель лепшай якасці людзям прыбліжаным да вышэйшых уладных структураў.

Пытанне аб прыватнай уласнасці на зямлю ў Беларусі сталася ў наш час не толькі эканамічным пытаннем. Гэта і палітычнае пытанне. Інстытут прыватнай уласнасці, ў тым ліку і на ямлю, заўсёды адыгрываў важнейшую ролю ў станаўленні грамадзяніна. Прыватная ўласнасць нараджала грамадзяніна, а грамадзянін, у сваю чаргу, ствараў дэмакратычны строй. Калі ж ў чалавека адсутнічае права ўласнасці, альбо, яго права ўласнасці сістэматычна парушаецца, то такі чалавек не можа быць сапраўдным грамадзянінам. Людзі, якія не могуць абараніць свае права ўласнасці, не могуць жыць пры дэмакратычным строі.

Выказаў свае меркаванні наконт прыватнай уласнасці на зямлю і былы кіраўнік гаспадаркі **Вырвіч Б.І**. Ён лічыць, што ў Беларусі пакуль зямельнай рэформы і не было. Проста ў 1999 годзе быў прыняты чарговы Зямельны кодэкс, у адпаведнасці з якім усе землі сельскагаспадарчага прызначэння з'яўляюцца дзяржаўнай уласнасцю. Дазваляецца толькі прыватная ўласнасць на зямельны ўчастак, заняты жылым будынкам і на прысядзібны ўчастак для вядзення прыватнай падсобнай гаспадаркі. Пры гэтым фермеры могуць атрымаць у карыстанне, але не ва ўласнасць, да 100 га зямлі.

Барыс Іванавіч зазначыў, што дзяржава не стварае спрыяльных умоў для развіцця фермерскіх гаспадарак – у іх няма роўных праў з іншымі сельскагаспадарчымі вытворцамі, заканадаўствам не абумоўлена магчымасць стварэння кааператываў, асацыяцый фермераў. Фермеры абавязаны заключыць пагадненне з мясцовымі органамі ўлады, у якім яны павінны вызначыць умовы землекарыстання, структуру вытворчасці, віды і аб'ёмы тавараў і вытворчых рэсурсаў, якія будуць набытыя і выраблены. Такая практыка стварае цяжкасці ў працы фермера, але без дамовы фермер не можа разлічваць на фінансавую падтрымку з боку дзяржавы. Дарэчы, паводле ацэнак, фермеры ў Беларусі атрымліваюць ад дзяржавы ў 7-10 разоў меншую падтрымку ў параўнанні з іншымі сельгаспрадпрыемствамі, якая, да таго ж, паступова скарачаецца.

Уласнасць – гістарычна абумоўленная форма прысваення матэрыяльных даброт, у якой выяўляюцца адносіны паміж людзьмі ў працэсе грамадскай вытворчасці. Галоўны аб'ект прысваення – сродкі вытворчасці, таму што валоданне імі вызначае становішча ў грамадстве пэўных класаў, сацыяльных груп насельніцтва. Пасля атрымання незалежнасці і фармавання рыначнай эканомікі Беларусі заканадаўствам вызначана правамернасць існавання дзяржаўнай, калектыўнай і прыватнай уласнасці. Канстытуцыя Беларусі гарантуе абарону і роўныя ўмовы для развіцця ўсіх формаў уласнасці. Зямля – самая каштоўная валюта. На паперы прыватная ўласнасць на яе ў Беларусі існуе, а на справе – свабоднага абароту зямлі няма і рэальны кошт яе невядомы. Таму Беларусь мае патрэбу ў аграрнай рэформе.

Пры канцы сустрэчы ў доме шклоўскіх дэмакратаў сябра Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, мясцовы краязнаўца **Алесь Грудзіна** зладзіў фотападарожжа па мясціне, дзе той дом месціцца. Госці і шклаўчане ўзведалі шмат цікавага аб гісторыі Шклова і яго жыхароў.

Удзельнікі сустрэчы падзякавалі новым гаспадарам за дабрызычлівую і працоўную атмасферу, у якой адбылася сустрэча дэмакратаў і пажадалі адзін аднаму плённай працы на карысць Беларусі.

***В.Добрая***

*А.Петрусевіч*

# І ўбачыў руіны касцёла…

( з гісторыі касцёла ў вёсцы Фашчаўцы)

У гістарычнай літаратуры паведамляецца некалькі дат узнікнення фашчаўскай святыні. Так, Караль Тамецкі і Канстанцін Бендаў, у сваёй кнізе "Гісторыя каталіцкага касцёла ў Фашчаўцы" сцвярджаюць, што касцёл быў пабудаваны ў 1637 – 1639 гадах. Прозвішчы першых місіянераў-езуітаў у Фашчаўцы, даследчык Ян Фібек пачынае пералічваць з 1651 года. А вось у кнізе Уладзіслава Завальнюка "Касцёлы царскай Расіі" згадваецца, што касцёл у Фашчаўцы заснаваны толькі ў 1654 годзе і асвечаны беларускім суфраганам Тавянскім. Галоўнае, падагульняючы пералічаныя даты, ўпэўненна можна сцвярджаць - каталіцкі асяродак у Фашчаўцы паўстаў не пазней сярэдзіны XVII стагоддзя. У далейшым, храналагічныя даведкі распавядаюць, што ў 1692 годзе завершана будаўніцтва драўлянага храма. Адбылося гэта дзякуючы намаганням Самуэля Косцюкевіча (о. Samuela Kosciukiewicza SJ), рэктара езуіцкага калегіума ў Оршы.

У 1708 годзе, падчас Паўночнай вайны, касцёл быў абрабаваны маскоўскімі войскамі і ў 1738 годзе пачынаецца будаўніцтва новага каменнага касцёла. І толькі праз 16 гадоў, у 1754 годзе, будаўніцтва храма завяршана, таксама намаганнямі рэктара езуіцкага калегіума, але ўжо Энтані Быкоўскага (о. Antoniego Bykowskiego SJ). У гэтым жа годзе храм быў асвечаны ў гонар Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Гістарычныя крыніцы паведамляюць, што ўзвядзенне храма таксама фундаваў уладальнік шклоўскага графства Адам Чартарыйскі. Менвіта Чартарыйскі, ў 1776 годзе пабудаваў будынак для пражывання і дзейнасці манахаў-езуітаў. Такім чынам, ўзамен драўлянага касцёла, ў Фашчаўцы ў сярэдзіне 18 стагоддзя паўстаў новы, велічны і прыгожы, храмавы будынак разам з гаспадарчымі пабудовамі.

Як гаворыць легенда, цэглу на новы мураваны касцёл выраблялі ў адлегласці 10 кіламетраў у Гарадзішчы, адкуль яна па ланцугу чалавечых рук перадавалася на пабудову храма. Знешне будынак касцёла прадстаўляў сабою тыповую барокавую базіліку і меў форму правільнага крыжа, даўжыня – 51, шырыня – 35, вышыня – 28 аршынаў. Па баках дзве квадратныя мураваныя вежы, накрытыя бляхай, з жалезнымі крыжамі наверсе. Паміж вежамі фацыянта ў форме трохвугольніка, завершана невялікім крыжам, такімі крыжамі завершаны з трох бакоў канцы касцёльнага даху. Па абодвух баках касцёла дзве двухпавярховыя рызніцы. Званіца мае два сярэдняй велічыны званы і сігнатурку. У храме адзінаццаць алтароў. Галоўна алтар – каменны. Другі алтар, з цудатворным абразом Найсвяцейшай Багародзіцы. На абраз павешаны залаты крыж, упрыгожаны каштоўнымі камянямі. Гэты абраз закрываецца другім абразом Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Над абразом Божай Маці – абраз Сэрца Ісуса Хрыста, а зверху – абраз Святой Тройцы. Трэці алтар, з абразом Укрыжаванага Ісуса Хрыста, Божай Маці Журботнай і малая фігурка Дзіцятка Ісуса за шклом. Чатвёрты алтар, з абразамі Святога Францішка Ксавера, Святога Антона, Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў пазалочанай рызе. Пяты алтар, з абразамі Святога Язэпа, Апякуна Найсвяцейшай Сям'і. Шосты алтар, з абразом Святога пакутніка Яна Непамуцэна. Сёмы алтар, з абразамі Святых Ігната Лаёлы, Станіслава Косткі і Сэрца Ісуса. Восьмы алтар, з абразом пакутніка Сымпліцыяна Рыцара з яго мошчамі. Уверсе абраз Святога Арханёла Міхала. Дзевяты алтар, у выглядзе капліцы з вялікай фігурай Укрыжаванага Ісуса Хрыста. Дзесяты і адзінаццаты алтары, пераносныя, з абразамі Сэрца Ісуса і Дзевы Марыі, Божай Маці Бялыніцкай і Святога Язэпа. Стацый Дарогі Крыжовай Ісуса Хрыста – 14. Амбон сталярнай работы. Падлога ў касцёле бетонна-мазаічная. Плябанія – драўляны дом, накрыты гонтай, у якім 9 пакояў. Іншыя пабудовы: флігель для прыслугі, пуня, канюшня, хлеў для жывёлы, лядоўня, свіран, лазня, побач сажалка, гумно для збожжа, студня. Зямлі ўсяго каля 40 дзесяцін: ля могілак 8 дзесяцін ворыва, паміж землямі гаспадароў Кушалёўскага і Паўлыкоў – 5 дзесяцін ворыва і 4 дзесяціны хмызняку, луг у Янаве каля Дняпра. Святыня належыла да найвялікшых беларускіх каталіцкіх касцёлаў, была бачна па-над лясамі з 15 кіламетраў, а пры добрым надвор'і і з аддалёнага на 47 кіламетраў Магілёва.

Адзінаю выяваю касцёла мае малюнак Напалеона Орды, зроблены ў 1877 годзе. Малюнак суправаджаецца надпісам: "Касцёл па-езуіцкі, заложаны ў 1754 годзе. Ксёндз Галкевіч". На адвароце дадаткова пазначана, што ў касцёле знаходзіцца абраз Маці Божай. На малюнку Н. Орды буйным планам паказаны прыгожы дзвюхвежавы трохнававы касцёл з трансептам, роўнавысокім цэнтральнай наве, і фігурным франтонам на тарцах перакрыжаваных дахаў, узведзены ў стыле віленскага барока.

Чатырох'ярусныя вежы касцёла мелі надзвычай маляўнічыя барочныя завяршэнні. Характэрна, што скразныя праёмы для званоў знаходзіліся даволі нізка, на другім ярусе, а трэці ярус, на ўзроўні франтона, быў глухі. У цэнтры франтона галоўнага фасада размяшчалася паўкруглая ніша-табэрнакула з скульптурнаю выяваю Дзевы Марыі. За алтарнай часткай касцёла бачны аднапавярховыя мураваныя будынкі місіі езуітаў, пакрытыя вальмавымі дахамі. Тэтыторыя комплексу была абкружана драўлянай агароджай з бярвенняў "у шулах" са сціплай брамкай "веснічкай".



Касцёл ў Фашчаўцы паводле малюнка Н. Орды

Як ужо распавядалась, у касцёле захоўваліся (восьмы алтар) рэліквіі (мошчы) Святога Сымпліцыяна, Папы рымскага першых стагоддзяў хрысціянства. На прыходскіх могілках, па сённяшні час, знаходзіцца цагляны пастамэнт з фігурай святога. Урачысты фашчаўскі фэст (прыстольнае свята) Знаходжання Святога Крыжа ("Здвігі"), які адбываўся 14 верасня, сведчыць аб тым, што ў касцёле мусілі знаходзіцца таксама рэліквіі Святога Господняга Крыжа. Як былапрынята ў тыя далёкія часы, самі парафіяне адпраўляліся да Рыма, або да іншых хрысціянскіх святынь каб займець святыя памяткі. Але галоўнай асаблівасцю фашчаўскага касцёла быў цудоўны абраз Маці Божай і яе шанаванне ў мясцовай песні аб "Пані ў фашчоўскім абразе". Разам з гэтай песняй пачэснае месца займае ў фашчаўскіх абрадах песня "О мой Божа, веру Табе", якая была створана ў 1826 годзе ў прадбачанні забароны ўладамі Царкоўнай Уніі (Уніяцкая царква ліквідавана ў 1839 годзе), як свайго роду катэхэзіс. На свята Наведвання Дзевы Марыі 2 ліпеня (пасля рэформы 31 мая) ва ўрачыстай працэсіі асвячалася крыніца ў суседніх Княжыцах. Яшчэ вялікай пашанаю карысталася свята Ўнебаўзяцця Дзевы Марыі ("Прачыстая") 15 жніўня, каторае пасля вайны ператварылася ў наведванне памёрлых на могілках падобных на Дзяды і Радаўніцу.

Галоўнымі місіянерамі і ахвяравальнікамі святыні ў Фашчаўцы былі айцы-езуіты. Гэты манаскі ордэн (дакладная назва: Таварыства Езуса) паўстаў дзякуючы намаганням іспанскага шляхціча Ігната Лаёлы (абраз гэтага святога знаходзіўся ў сёмым алтары). Новастворany ордэн паставіў перад сабой мэту спрыяць хрысціянскай адукацыі, выхаванню моладзі, дапамагаць у навучанні і духоўнасці будучых святароў. Менавіта на беларускіх землях манахі гэтага ордэна арганізавалі адзін з першых ва Усходняй Еўропе універсітэт: у 1579 годзе ў Вільне, а пазней, у 1812 годзе, - у Полацку. Таксама калегіумы ў Полацку, Нясвіжы, Пінску, Віцебску, Мінску, Оршы, Магілёву, Гародне, Мсціславе, Чачэрску, Клімавічах і іншых мясцінах. Езуіты прымалі на навучанне ў свае калегіумы і універсітэты ўсіх ахвотных, незалежна ад іх нацыянальнасці і веравызнання. У часы русіфікацыі і паланізацыі дзякуючы іх стараннем не спынялася гучанне беларускай мовы і выданне беларускіх кніг. Да гэтага часу на Беларусі знаходзяцца велічные храмы, бібліятэкі, навуковыя лабараторыі, творы мастацтва, якія з'явіліся тут дзякуючы менавіта айцам-езуітам.

Вось што паведамляла газета "Наша Ніва" ў кастрычніку 1908 года пра вёску Фашчаўка сучаснага Шклоўскага раёна: "тутака (у Фашчаўцы) скрозь жывуць беларусы, але ёсць і трохі літвінаў. Вось, у тутэйшым касцёле завёўся цяпер парадак, што казанні ксяндзы кажуць па- польску, па-літоўску і па-беларуску; таксама спявае народ песні касцёльныя ў гэтых трох мовах. Беларусы тутэйшыя, як пачулі першы раз казанні ў сваёй мове, дык ад радасці аж заплакалі".

А вось як пісаў пра гэтую парафію ў першай палове XX стагоддзя святар Канстанцін Стэповіч, вядомы ў беларускай літаратуры як паэт Казімір Сваяк: «Парафія гэта лацінскага абраду, але знаюць яе патомкі і тых Беларусаў, што калісці з прымусу пакінулі Унію, пачувалі агіду да казёншчыны. Кругом зніштажэнне, упад рэлігіі. А тут адпачывае чалавек… Стройны касцёл, найвялікшы на Беларусі, ёсць асяродкам парафіі. Вакол разселася дзевяць вёсак каталіцкіх. Кругом гавораць чыстай мовай беларускай. Айцы Езуіты калісьці далажылі вялікай працы, каб Беларус не страціў сваёй мовы. Выдалі яны беларускі катэхізм, навучалі па-беларуску, вучылі песняў… Хвашчоўка так добра перахавала свой беларускі характар, што сялянцы дагэтуль убіраюцца ў строі народныя. Люд тутэйшы аказаў дзіўную да веры прывязанасць… І сягодня яшчэ не зменшылася гэта любоў да касцёла. Ідуць туды ахвотна, і не чуваць між імі жыцця распушчанага, немаральнага... Вялікія святы-фэсты збіраюць у Хвашчоўку цэлыя грамады Беларусаў, нават з мест далёкіх - бо далёка разышлася слава Дзевы Марыі Хвашчоўскай».

Менавіта Фашчаўка разам з Улай у Віцебскай губерні з'яўляліся дзвюма парафіямі ва ўсёй Беларусі, дзе на пачатку XX стагоддзя ўжывалася выключна беларуская мова. Ужо згаданый раней Ян Фібек у храналагічным парадку, пачынаючы з 1651 па 1820 гады, пералічвае прозвішчы 68 езуітскіх місіянераў, якія працавалі ў Фашчаўцы.

Пасля забароны расійскімі ўладамі ордэна Таварыства Езуса, з 1822 года Фашчаўскі касцёл становіцца парафіяльным. Вядомы прозвішчы асобных пастараў фашчаўскай святыні. Крыніцы паведамляюць прозвішчы ксендза-дэкана П.Зялінскага і ксяндза Антона Мацулевіча. У 1900 – 1902 гадах у парафіяй адміністраваў Паўла Карповіч. Ад 1911 года пробашчам быў ксёндз Ян Баравік. У 1923 годзе згадваецца прозвішча Аляксандра Сака. З 1924 па 1928 – ксёндз Альбін Шаціла. У 1926 годзе апошні раз наведаў Фашчоўку біскуп–адміністратар Магілёўскай архідыяцэзіі, Балеслаў Слонскак. Апошнім фашчаўскім святаром у перадваенны час быў Пётр Януковіч.

У хуткасці пачынаюцца жудасныя гады ваяўнічага атэізма. Былі арыштаваны і расстраляны Ян Баравік, Альбін Шаціла. Арыштавалі і саслалі ў Вятку Паўла Карповіча. 13 чэрвеня 1937 года, падчас апошняй традыцыйнай пілігрымкі, калі большасць жыхароў адправілася на свята Святога Антонія да Магілёва, "невядомыя" разбілі і абрабавалі абраз Божае Маці з касцёльнага алтара. А потым "за касцёл" былі ўзяты ксёндз Пётр Януковіч, арганіст Марцін Секацкі, старшыня касцёльнага камітэта Ігнат Давідовіч, бацька і сын Крупенькі, і яшчэ 9 іншых парафіянаў. Пасля працэса, што апісваўся ў шклоўскіх газетах, яны былі растраляны на працягу тыдня.

Пасля вайны ўлады спрабавалі зраіць у касцёле клуб, аднак з-за агульнага супраціву жыхароў ідэя была часова пакінута. Аднак ў пачатку 60-х гадоў тагачаснаму кіраўніцтву вельмі карцела ўсё знішчыць, што не адпавядала "истинно русской истории". І вось 24 снежня 1967 года велічны будынак у Фашчаўцы быў узарваны. Па ўспамінам мясцовых жыхароў: "Касцёл лёгка ўзняўся і апаў. Снег быў чырвоны, быццам ад крыві, ад цаглянога пылу". А потым, на мурах касцёла, нібыта з'явілася Божая Маці, якая плакала.



Здымак Фашчаўскага касцёла пасля вайны

Шмат каго ўсхвалявала тое варварства. Прыгадаем артыкул Яўгена Меркушэвіча-Саськаўскага «Рэквіем фашчаўскаму касцёлу», змешчаны ў раённай газеце «Ударны фронт». Аўтар пісаў:«Прайшоў праз лясок і ўбачыў вялікую кучу цэглы і смецця - гэта былі руіны касцёла. Вёска Фашчаўка выдалася не той. Стаялі маленькія, убогія хацінкі, пуні, хадзілі куры, мычэлі каровы, снавалі людзі. Але гэта здавалася шэрым, змрочным, бессэнсоўным і нікому непатрэбным. Я заплакаў...». На прыканцы артыкула артыкула аўтар піша free вершаваныя радкі:

И я прошу: прости нас, Боже,
Мы в чем-то виноваты тоже,
Что не смогли тот храм спасти.
Прости нас, Господи, прости.

Гэтую людскую споведзь можна лічыць як рэквіем усім хрысціянскім святыням знішчаным на Шклоўшчыне.



Крыж на месцы былога касцёла

Аднак вера ў Бога ў Фашчаўцы не знікла. На прыканцы 80-х гадоў парафія нанава аднавілася. На месцы, дзе некалі знаходзілася святыня, ўзнёсся памятны крыж. Для стварэння капліцы кіраўніцтва мясцовай гаспадаркі перадала вернікам будынак. Далёка яшчэ да таго, каб, як у лепшыя часы, было ў Фашчаўцы больш за 3000 вернікаў. Між тым, вось ужо чацьвёртае стагоддзе, па-ранейшаму, гучаць над Фашчаўкай вечныя словы малітвы: "Ойча наш, каторы ёсць у небе, свяціся імя Тваё, прыдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая... "

P.S. Дарэчы, крыж на месцы былога фашчаўскага касцёла ў свой час усталяваў выбітны беларускі мастак Алесь Пушкін, які зараз займаецца распрацоўкай матэрыялаў з нагоды рэстаўрацыі шклоўскага касцёла святых Пятра і Паўла.

Рэдакцыя газеты зычыць спадару Алесю плённай працы, а жыхароў раёна заклікае да больш актыўнай супрацы, у тым ліку ў выглядзе прадастаўлення невядомых звестак па развіццю каталіцызма ў нашай мясцовасці. Ведаць сваю мову, сваю гісторыю, вытокі рэлігіі вельмі каштоўна.

## Кебич: Хватит имитировать союзное строительство

Бывший премьер-министр Беларуси считает интеграцию с Россией имитацией. В книге Вячеслава Кебича «Беловежский гамбит» нашлось место не только критике вискулевских соглашений, но и разносу так называемого «союзного государства Беларуси и России», пишет "Салідарнасць". Пикантность ситуации заключается в том, что экс-премьер является сторонником интеграции двух государств. Однако ее нынешнее воплощение Кебичу категорически не нравится. Почему? Это объяснят несколько цитат из книги:«26 мая 1995 года у белорусской деревни Речка убрали символический пограничный знак…Надо ли было устраивать это политическое шоу? Сначала установили пограничный столб, а затем при телекамерах его вырыли! Подобные действия, на мой взгляд, лишь дискредитируют большую политику, приучая людей к тому, что многое в ней делается для показухи». «2 апреля внесено в реестр государственных праздников как День единения народов Беларуси и России. Думаю, что для подавляющего большинства населеия Беларуси и России 2 апреля – обычный день календаря. Потому что праздник носит несколько искусственный характер». «8 декабря 1999 года подписан Договор о создании Союзного государства…Судьба Союзного договора не намного счастливее сотен других соглашений, подписанных за годы существования СНГ. За четырнадцать лет, прошедших после создания белорусско-российского Союзного государства, оно всё еще продолжает оставаться виртуальным». «Быть пророком как в своем, так и в чужом Отечестве – в равной мере дело неблагодарное. В былые времена эти люди заканчивали жизнь на дыбе или в темнице. Сейчас их участь не столь печальна, но и не завидна. И всё же, поскольку я был одним из инициаторов создания Союзного государства, должен сказать, что оно давно уже прошло свой утробный период развития, и шансов на то, что в ближайшей перспективе покажется на свет Божий, с каждым годом становится все меньше». «Сетовать о том, что мы упустили шанс стать единым государством, бесполезно. На нет и суда нет! Самобичевание не снимает, а лишь усиливает боль. Продолжать же имитировать союзное строительство – еще более вредно, так как, порождая несбыточные иллюзии, отвлекает от реальных дел». «Так, может быть, пора прекратить это шоу?!..»

## Трудовой стаж для получения пенсии планируют увеличить до 15 лет

Минимальный трудовой стаж с уплатой взносов в Фонд социальной защиты населения для получения трудовой пенсии в Беларуси будет постепенно увеличиваться и дальше.Об этом журналистам сообщила заместитель начальника главного управления пенсионного обеспечения и социального страхования Министерства труда и социальной защиты Лариса Яшкова, передает кореспондент БелТА. «В Беларуси преобразования в пенсионной сфере производятся пошагово, медленными темпами, но уверенно. С 1 января 2014 года увеличена продолжительность минимального трудового стажа, необходимого для назначения трудовой пенсии по возрасту и за выслугу лет, с 5 до 10 лет. И это обоснованная мера, поскольку страховой стаж - это основа для начисления трудовой пенсии для формирования пенсионных прав. В перспективе такой стаж постепенно будет увеличиваться и дальше», - сказала Лариса Яшкова. Напомним, с 1 января трудовая пенсия будет начисляться только тем белорусам, кто платил взносы в ФСЗН больше 10 лет.Об этом говорится в указе Лукашенко N389 от 3 сентября 2013 года.

Рэдактар П.С.Мігурскі Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад: 299 ас.
Адрас: 213018 Магілёўская в., Шклоўскі р., в.Дабрэйка. Тэл. 8 02239 92618; 8 0298 499670
E-mail: agro56@tut.by. РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ. Падпісана ў друк 14.01.2014